# НЯХАЙ ЖЫВЕ 1 МАЯ


# НІВА

Год выдання V
№ 18 (218)
1 МАЯ 1960
БЕЛАСТОК
Цана 60 гр.

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА


НІЛ ГІЛЕВІЧ

## МАЙ

Адзвінеўшы ледзянымі крыгамі,
Улягліся рэчкі ў берагі.
Прывітаны радаснымі крыкамі
Бусел робіць першыя кругі.

Даль, прамытая дажджамі цёплымі,
Ясным вырысам зноў лашчыць зрок.
Краскі яркія на ціхім поплаве
Усміхаюцца яшчэ здалёк

Ты ідзеш абсохшаю абочынай
Пакланіцца руням маладым.
Над палямі—жаўранкі нязмоўчныя,
Над дубровамі — зялёны дым.

Адусюль нясе знаёмым водарам —
Мілым сэрцу водарам вясны.
Адусюль плывуць яе мелодыі —
Смех, і звон, і гоман — гул лясны.

На душы—прасторна, лёгка, весела:
Май ідзе па ўсім зямным шары!
І ва ўсіх краях тваё равеснікі,
Незнаёмыя тваё сябры

Гэтаксама радуюцца зелені,
Сонцу яснаму над галавой,
Небу сіняму, палям засеяным,
Шэпту ліўняў з лісцем і травой.

Як і нам, з усіх грымот ім хочацца
Толькі той вясёлы слухаць гром,
Што пупышцы памагае лопацца,
Каб хутчэй раскрылася лістом.



ВІКТАР РУДЧЫК

## ПЕРШАМАЙСКІЯ КВЕТКІ

Каляіны перасыпаліся залатым пяском. Дарога, быццам струйка вады, вілася сярод маладых сасёнак і неяк зусім непрыкметна рабілася вуліцай, уваходзячы ў сяло Вулька - Нурэцкая (Сямяціцкі павет).

Цёплы вясенні вецер бесперапынна выйгрываў на тэлефонных струнах манатонную мелодыю.

Правады тэлеграфа крыжаваліся з правадамі электрычнага току. Дзесці з-за паселіпчаў прылятаў рытмічны гоман матора. Гэта трактар «Беларусь» працаваў на спулдзельчых палях.

Вуліца раўнамерна ідзе ўсё ўгору. На самай вяршыне, пры разгалінаванні дарог, стаіць велізарны драўляны будынак. Калісьці жыў у ім Аляксандр Нічыпарук. У 1946 годзе ён разам з сям'ёй выехаў у Савецкі Саюз. Недалёкім яго суседам быў Станіслаў Самасюк. Ён таксама ад 1945 года жыве ў СССР. Ідзем далей. Вось нядаўна пабудаваная хата. Гаспадаром тут Васіль Міхайлавіч Грыцук і яго сын Міхась. Ужо на самым канцы вёскі жыве Максім Рудчык, старшыня сельгаскааператыва.

Тры кіламетры за Вулькай рас паложана вёска Тымянка. Яна з'яўляецца роднай вёскай Аляксандра Бэтлейкі, Івана Дудзіка, Сцяпана Іванюка. Зараз у Тымянцы жыве толькі Аляксандр Бэтлейка. Ён працуе брыгадзірам у спулдзельні. Іншыя або загінулі ў шматлікіх завірухах, або выехалі ў СССР.

Змрок вясенняга вечару, быццам пухам, пакрыў будынкі. Маладзенькі месяц, мігаючы зоркам, рассмяўся на небе, як бы жартаваў з электрычнымі лямпачкамі, асвятляючымі вёску.

Паканчваючы працу ў полі і па надворку, дзяўчаты і хлопцы выйшлі на вуліцу, расселіся па лавачках. Паветра адгукнулася звонкай жартаўлівай песняй. Бестурботная маладосць! Але вось паплыла старая народная песня, песня аб мінулым, песня — гісторыя. Яе задумлівыя тоны, быццам човен па шырокай рацэ, адносяць думкі да далёкіх гадоў мінулага, прыпамінаюць.

II.

Красавіцкі вечар западаў хутка. Аляксандр Нічыпарук стаяў за прылаўкам сваёй вясковай крамы дробных тавараў і рыхтаваў газавую лямпу. Кліентаў ужо не было. Аднак Аляксандр гэтым не турбаваўся. Крама і так не давала ніякага даходу. Ён успомніў нядаўні сход у лесе каля Мілейчыц.

— Таварыш, — звярнуўся тады да яго сакратар райкома, калі яны засталіся адны, — за табой, брат, як я даведаўся, сочаць. Ты, як сакратар ячэйкі, мусіш асцерагацца.

(Працяг на стар. 3)

А. СЯРГЕЮК

## КУЛЬТУРНА-АСВЕТНЫЯ СПРАВЫ Ў ТРАСЦЯНЦЫ

За пятнаццаць год існавання ў Польшчы народнай улады не толькі сама вёска Трасцянка змяніла свой выгляд, але вялікія змены адбыліся ў матэрыяльным і культурным жыцці яе жыхароў. Трасцянка, як вядома, вялікая, населеная, як ў ёй многа, і амаль усе людзі пісьменныя, развітыя, бо асвета тут з даўніх часоў стаяла на вышэйшым узроўні, чым у іншых вёсках. У канцы мінулага і ў пачатку гэтага стагоддзя тут існавалі школы: дзве пачатковых для дзяўчат і хлопцаў асобна і настаўніцкая — з курсам сельскай гаспадаркі, а пры ёй яшчэ была прыкладная двухкласная школа для практычных заняткаў.

(Працяг на стар. 4).

УСІХ ЧЛЕНАЎ БГКТ І ЧЫТАЧОЎ «НІВЫ» ВІНШУЕМ З 1 МАЯ І ЖАДАЕМ ПОСПЕХАЎ У ПРАЦЫ, А ТАКСАМА Ў АСАБІСТЫМ ЖЫЦЦІ.

Галоўнае Праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства і рэдакцыя «Нівы»

